# НАВІНКІ

Серада, 25 лютага 1998 № 1 Кошт свабодны

“Тэхаская разьня бэнзапілою. Новая генэрацыя” студыя Гамон Пікчэз, 1997, 135 хв. Рэж. Кэвін Коснэа

Пасьля таго, як тры гады таму ў Сан-Францыска зьнялі фільм ”Расьпільваньне лобзікам па-ціхаакіянску”, даласкія калегі доўга не маглі даць належнага адказу. І вось нарэшце. У



цэнтры падзеяў клясычная чацьверка, якая ў пошуках тэлефона (?) губляецца ў лесе (?) і трапляе на адзінокую лесапільню (?), якую аблюбавала зьлёгку неардынарныя тыпы: сын-алігафрэн, бацька -- прыхільнік рабства й тэхаскага сэпаратызму, і дачка -- ваяўнічая баптыстка. Усе яны бавяць час, што 2 гадзіны 15 хвілінаў рэжуць уздоўж, і ўпоперак нашых герояў з дапамогай свайго мэханічнага сябра. Выжывае адна дзяўчынка. І калі яна амаль ужо дакульгала да шашы на Х’юстан, зьяўляецца нейкі анёлак з газэтай “Навінкі”, якую ў гэтым сытуацыйным кантэксьце варта разглядаць ня проста, як нейкі бязмэтавы сьцёб, а...

...як глябальны рэвалюцыйны праект. Зьяўляючыся нашчадкамі традыцыяў артыстычнага радыкалізму дадаістаў, тэорыі гульні сытуацыяністаў і г.д. мы разглядаем абсурд як галоўны рубеж атакі на сучаснае буржуазнае грамадзтва. Зь іншага боку, нас не цікавіць постмадэрнісцкія тэорыі і іх апалягеты, якія абмежаваныя элітарнымі канцэпцыямі індывідуальнага выратаваньня, як дарэчы і ўсе спробы сучасных палітыкаў падпарадкаваць прагрэсіўныя формы вар'яцтва праграмам рэфармісцкіх партыяў. Рэдакцыя "Навінак" бачыць толькі



адзін выхад з крызыснага становішча, у які сёньня трапіў авангардны рух -- сацыялізацыя контар-культуры праз формы масавай культуры. Першы крок у гэтым напрамку быў зроблены яшчэ ў 60-ыя гады, калі Сытуацыянісцкі Інтэрнацыянал прапанаваў выкарыстоўваць архетыпы масавай культуры, перш за ўсе стандарты рэклямы, у мэтах рэвалюцыйнай парпаганды, г.зв. практыка "Detrounement". Апошнія культуралягічныя дасягненьні авангарду сьведчаць пра тое, што проста фрагмэнтальнага й

выбарачнага ўжо не хапае. Зараз, калі сусьветная глябалізацыя пахавала пад сабою мадэль сацыяльнай дзяржавы (а разам зь ёй і ўсе постмадэрнісцкія залёты



дробнай буржуазіі), калі залатая моладзь скрала ў нас вонкавыя эстэтычныя каштоўнасьці, толькі масавая контар-контар-культура можа



забясьпечыць авангарду выжываньне й нейкія пэрспэктывы. У рэальнасьці гэта азначае татальны адыход

ад традыцыйных каштоўнасьцяў ізаляванай тусоўкі. Наадварот, неабходна пагрузіцца на





самае дно масавых калектыўных фантазіяў, дзе пануюць тэрмінатары,



гангстэры, сэксапільныя сьцервы ды іншыя героі Галівуда. Калі разабрацца, яны нашмат небясьпечней для грамадзтва, чым уся панікоўка разам узятая. Толькі яны, а ня Курт

Кабэйн, здольныя патэнцыйна трансфармаваць сьвядомасьць мас. Аднак



ніхто сёньня не валодае мэтодыкай культурных правакацыяў. Старая генэрацыя нават не разумее, што сучасны парадак

дыскурсу павінен мець нейкае адценьне іррацыянальнасьці, спэц-эфэкта як добры кліп або круты баявік. Гэтае псыхалягічнае патрабаваньне іррацыянальнага -- Волі да цуду -- складаная частка сучаснага сьветапогляду мас. Сучасная палітыка, што апэруе толькі лічбамі, фактамі й традыцыйнымі каштоўнасьцямі ня здольная выкарыстаць і кампэнсаваць гэтую Волю. Сучасная палітыка занадта прагматызаваная, каб цікавіцца пытаньнем, крыві якой групы аддае перавагу Дракула на сьняданак. Але ж гэта цікавіць нас і народ. Таму, мы скажам масам, што зранку Дракула любіць кроў 1-ай, 2-ой і 8-ай групы, але абавязкова каб гэта была кроў белай жанчыны да 28 гадоў з рэзусам "плюс". Хто зможа сказаць, што гэта няпраўда?

# Віншаваньні олдавага панка Мао беларускаму народу з нагоды кітайскага Новага году



# дарагія таварыщы, родныя й блізкія!

Год таму, я, брудны гамбурскі панк, як нелегальны эмігрант быў вытураны ў родную Беларусь.

Прызнаюся шчыра, што ў той момант, калі самалёт авіякампаніі *Lufthansa* узяў курс на Менск, цьмяныя й трывожныя сумневы наконт лёсу майго народу закраліся ў маю душу. Прыгадаліся аршынныя загалоўкі нямецкіх газэтаў, прысьвечаныя сытуацыі ў Беларусі: "Дыктатура", "Эканамічны крызыс", "Ураджай ячных пабіты градам"... Сёньня гэтыя бязглуздыя выдумкі заходняй прапаганды здаюцца сьмешнымі й перабольшанымі. Але тады, у самалёце, паклаўшы руку на сэрца, я сапраўды разьдзіраўся сумневамі і, ясная справа, страшэнна нажорся. Балазе ў самалётах *Lufthansa* віскі, піва й каньяк бясплатна выдаюць на першае запатрабаваньне кліента.

З той хвіліны, калі мяне, п'янога парсючка, выпхнулі на ўзлётную паласу менскага аэрадрому, мінуў роўна год. Краіна ачуняла ад майго вяртаньня, і больш за тое, дабілася велізарных посьпехаў: стабілізавалася сытуацыя ў эканоміцы, згасьлі вулканы, адкрылася станцыя мэтро "Партызанская"... У гэтай лавіне посьпехаў, перамог і зьдзяйсьненьняў ёсьць і мая, не такая ўжо й малая крыха заслугаў — у адрозьненьне ад бязмэтна пражытых гадоў у Гамбургу, дзе я цэлымі днямі вымагаў грошы ў старушак, абражаў прастытутак на Рыпэрбане й біў морды мінакам, тут я нічога такога не рабіў. Вы спытаеце: якім жа чынам экзыстэнцыя панка — напаўгалоднае, дзікунскае, анархічнае існаваньне? Я адкрыю вам ашаламляльны сакрэт: па ўсіх названых вышэй катэгорыях Беларусь дасьць фору ўсім заходнім панкаўскім прытонам, узятых разам.

Што такое панк на Захадзе? Мізэрнае крыўляньне сынкоў дробнай буржуазіі. Відавочна, што сапраўдны панк-рух знаходзіцца менавіта тут, у Беларусі. Менавіта беларускі народ забіў велізарны болт на канфармісцкія тэорыі спажывецкага грамадзтва й разгарнуў грандыёзнае сацыяльнае будаўніцтва, заснаванае на карпаратыўных прынцыпах псыхадэлічнага кшталту. Прыгадаем хоць бы гісторыю NATO. У той час, калі краіны былога ўсходняга блёку аддаюцца натаўцам таньней, чым апошняя дзеўка ў Санкт-Паўлі, маленькі, але горды беларус дэманструе ўсім-усім-усім свой маленькі, але моцны, мазолісты fuck і спакойна працягвае дэгуставаць апошнія вынаходніцтвы "Аліварыі", "Крышталю" і "Крыніцы". Невыпадкова лідэр каліфарнійскага андэграўнда Біадра дастаў мяне сваімі тэлефаксамі, у якіх літаральна ўпрошвае патлумачыць умовы пераходу ў беларускае грамадзянства. Адным словам, калі б у сьвеце існавала міжнароднае панкаўскае сацспаборніцтва, пераходны сьцяг імя Сіда Вішэза даўна б вісеў у маёй прыбіральні.

На заканчэньне я зьвяртаюся да дзетак-беларусаў: пераймайце лепшыя бацькоўскія традыцыі й выходзьце на новыя рубяжы. Асабіста я, як ніколі раней, выразна бачу далягляды новай грамадзка-эканамічнай беларускай панкаўскай фармацыі. Давайце ж вып'ем за сьветлую і непахісную цёмную будучыню нашай Радзімы.

З Новым годам! ●

**Таварыш Мао**



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# падвох



## У хакейным матчы зь беларусамі японцы выкарыстоўвалі радыёкіраваную шайбу

Напэўна шмат хто зь беларускіх аматараў хакею зьдзівіўся выніку матча нашай зборнай з камандай Японіі. Сапраўды, пасьля трыюмфальных перамог над досыць аўтарытэтнымі камандамі Нямеччыны й Францыі наша зборная не змагла разьвесьці некіх самураеў, якія разумеюць у хакеі столькі ж, колькі нашыя - у палачках для рысу. Апошняму падлетку зразумела, што справа тут нячыстая, тым больш спэцыялістам. Першым выказаў свае падазрэньні на гэты конт адзін з самых вядомых спартыўных рэпарцёраў Японіі Вынь Сунь. На яго думку, японцы выкарыстоўвалі у матчы зь беларусамі радыёкіраваныя шайбы. Вынь Сунь прапанаваў журналістам схему перасоўваньня шайбы па спартыўнай пляцоўцы, маршруты руху якой на дзіва схематычныя й простыя, быццам яны падпарадкаваліся нейкаму розуму. Відавочна, што значная большасьць зададзеных маршрутаў мела мэтай вараты беларускай зборнай. Гіпотэза Вынь Суня заслугоўвае самай вялікай увагі. Дастаткова прыгадаць другую шайбу ў вараты беларусаў. Калі форвард японцаў на 43-яй хвіліне адарваўся ад нашага абаронцы, выходзячы сам-насам з варатаром, наш хлопец , ратуючы сытуацыю, проста ўрубіў яму па патыліцы. Звычайна ад такіх пачастункаў хакеіст ня можа нават крыкнуць "Банзай". Таму японец, вядома, рухнуў на лед і страціў прытомнасьць, але, што дзіўнае: шайба працягвала ляцець далей быццам куля. Гэта толькі маленькі эпізод зь бесканцовай сэрыі полтэргейстаў, што тварыліся у той вечар на лядовым пляцы. На думку Вынь Суня, іхная прычына — зусім не вышэйшая сіла, а геній невядомага японскага інжынэра-канструктара "радыёіраванай шайбы". Тое, што вэрсія рэпарцёра мае рэальны грунт, сьведчыць лёс самаго Вынь Суня. Праз два дні пасьля канфэрэнцыі пра "радыёкіраваную шайбу" Вынь Сунь быў знойдзены мёртвым каля вядомага такійскага бардэлю "Луч". Нябожчык памёр ад удушша: нехта запіхаў яму ў горла сапраўдную хакейную шайбу. Камісар паліцыі зваліў усю адказнасьць на мясцовых панкаў, але думаецца што загадка сьмерці Вынь Суня ня столькі празаічная. Як бы там ні было, на наступны дзень усе хакеісты перад пачаткам гульні правяраюць шайбы магнітам. Гэта ня проста рытуал. Ніхто ня хоча стаць наступнай ахвярай японскіх штучак, якія ўжо пазбавілі беларускую каманду заслужанай перамогі, а можа й залатых алімпійскіх мэдалёў. ●




## Моніка Левінскі *клеіцца да* лідэраў беларускай апазыцыі

Усё ідзе да новага палітычнага скандалу, так лічыць амэрыканскі штотыднёвік *Newsweek.* У фокусе патэнцыйнага скандалу вядомая афэрыстка Моніка Левінскі з сваімі незадаволенымі сэксуальнымі пачуцьцямі. Не пасьпеў заціхнуць скандал адносна таго, што Біл Клінтан меў з Монікай нейкія сэксуальныя кантакты, як усё пачалося ізноў. Чарговай ахвярай заклапочанай амэрыканкі стаў Зураб Станіслававіч Хмызьняк -- адзін зь лідэраў беларускай апазыцыі, які зараз жыве ў эміграцыі ў ЗША.

Як пішуць амэрыканскія бульварныя газэты, сустрэчы Зураба й Монікі набылі падазрона пастаянны характар. Гэта пачалося 2 тыдні таму пад час прыёму з нагоды адкрыцьця Беларускага Цэнтру Шпіёнаў -- новага аддзелу ў структуры ЦРУ. Моніка ў першыню пабачыла тады ільвіную шавялюру , моцныя біцэпсы й трыцэпсы Хмызьняка й закахалася ў яго зь першага погляду. Некалькі дзён яна літаральна не давала Зурабу праходу сваімі надакучлівымі прыставаньнямі. У рэшце рэшт ён здаўся.

Дарэчы, бурнае сэксуальнае жыцьцё для Зураба на парадку дня -- дастаткова прыгадаць, што ў шэрагах роднай партыі "Беларускі Народны Тыл", вядомай сваімі сэксуальнымі монстрамі, яго завуць "Неўтаймавальны бусьлік". Раман працягваецца, і вынікам яго будзе хутчэй за ўсё маштабны скандал, які шмат што зьменіць у складанай сытуацыі вакол Іраку. ●

# "titanic": айсбэрг не вінаваты. вінаваты кацман! -- сьцьвярджае амэрыканскі гісторык боб мак рой





300 тысячаў гледачоў (акурат столькі людзей паглядзела фільм "Тытанік" за першыя 2 месяцы пракату) відавочна сталі ахвярамі самага звычайнага падману. У пагоне за Оскарам рэжысэр Джэймс Камэрун аддаў перавагу старой вэрсіі гібелі катастрофы, якая як вядома адбылася ў 1912 годзе. Згодна зь сюжэтам карціны, Тытанік ідзе на дно пасьля сутыкненьня зь велізарным айсбэргам. Між тым апошнія вынаходкі вадалазаў экспэдыцыі датчаніна Фрюксана сьцьвярджаюць, што прычынай гібелі самага вялікага на той час у сьвеце карабля быў страшэнны выбух, а ня нейкі сугроб. Эпіцэнтрам выбуху былі каюты 3-яй клясы. Рэшткі сьведчаць, што хутчэй за ўсё гэта была штучна выраблёная бомба, якая выбухнула за 2 хвіліны 43 сэкунды да сутыкненьня з айсбэргам. Хто й нашто ўзарваў дынамітны фугас? Адказ на гэтае пытаньне прапанаваў ня гэтак даўно вядомы амэрыканскі гісторык Боб Мак Рой. У сваёй кнізе "Explosion on the Titanik: Blak Trace of Belarusian Anarchists" (NY,1997) ён не без падставаў сьцьвярджае, што за выбухам на Тытаніку стаялі члены беластоцкай анархісцкай групы "Черное знамя", якія беглі ў Амэрыку ў пошуках палітычнага прытулку. Імёны гэтых людзей наўрад ці што-небудзь скажуць нам сёньня: Ізя Кацман і Анатоль Дзяцел (гл. фота). Але ў свой час ад іхных прозьвішчаў прыходзілі ў жах усе паліцэйскія акалоткі Северо-Западного Краю. Анархісцкі дуэт пад час рэвалюцыі 1905-1907 быў арганізатарам самых дзёрзкіх налётаў і тэрарыстычных замахаў. Клясычны прыклад — выпадак з праваднром гарадзенскіх чарнасоценцаў Яфрэмам Коржыкавым, які меў дачыненьні да габрайскага пагрому ў Беластоку ў 1906. У лепшых традыцыях Бэні Крыка тэрарысты прымусілі Яфрэма пад дуламі рэвальвэраў падпісаць ліст пра тое, што апошні ахвяруе мясцовай сыяністкай газэце "Гудок Ізраіля" 20 000 рублёў. Але ,безумоўна, кульмінацыяй прыгодаў анархістаў стала абрабаваньне ў 1908 мёнскага філіялу Азоўска-Камэрцыйнага банку. Анатоль Дзяцел зайшоў адным цудоўным чэрвеньскім ранкам у апэрацыйную залю банку з куляметам сыстэмы "максім" у руцэ, і сказаў прыкладна наступнае: "Спадарства, у нашым горадзе толькі 3 беларускамоўныя школы. Я мяркую, што ніхто ня будзе супраць прафінансаваць беларускамоўную гімназію. Ахвяруйце на дзетак-беларусоў хто колькі можа". У выніку налёту баевікі атрымалі 68 000 рублёў наяўнымі, якія ўсе да апошняй капейкі пайшлі ў фонд першай беларускай гімназіі, якія потым былі прапітыя сёстрамі-Луцкевічамі. Нашы "деточкины" пагарэлі ў 1910 пад час страйку на менскім піўзаводзе. Хлопцы падтрымлівалі рабочых, якія захапілі прадпрыемства й дапамагалі ім трымаць абарону. Страйкам знаходзіўся на Троіцкім. Пад час начной аблавы супраць гандляроў кантрабанднымі папяросамі паліцэйскія выпадкова нарваліся на баевікоў і арыштавалі іх. Суд прысудзіў абодвух да пажыцьцёвай катаргі ў Сібір, адкуль яны благапалучна зьбеглі ў 1911 у Эўропу. У 1912 годзе сябры апынуліся ў Англіі, адкуль вырашылі падацца ў Амэрыку. Так здарылася, што білеты былі толькі на "Тытанік". Як сьцьвярджае Боб Мак Рой, хутчэй за ўсё падчас маршруту анархісты задумалі падняць матросаў "Тытаніка" на паўстаньне. Прадугледжвалася перайменаваць "Тытанік" у "Чырвоны Айсбэрг", стварыць на караблі анархічную камуну і йсьці прамым курсам на Нью-Ёрк каб зрабіць рэвалюцыйны дэсант. Рыхтуючыся да выступленьня анархісты пачалі любімую справу — выраблаць бомбы ды разводзіць багатых жанчын на кішэнныя грошы. Бомбы, грошы й жанчын складалі прама пад койкай. Відавочна гэта было вельмі небясьпечна і ў рэшце прывяло да выпадковага выбуху.Бомбы, вядома. Вэрсія амэрыканскага гісторыка яшчэ патрабуе дэталёвага вывучэньня, але ў любым выпадку яе трэба разглядаць як дастаткова абгрунтаваную. Што да Джэймса Камэруна — няхай ён падавіцца сваім Оскарам. Гістарычная праўда, нам даражэй. ●

**Пераклад з часопісу *Oscar News***

## НАШЫ КРУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Час біць у рыла

**У аснову гэтага дэтэктыўнага апавяданьня пакладзеныя факты, якія сапраўды мелі месца ў 1995-1997 гадах. Аўтары пералічаюць увесь ганарар у незалежны фонд "Волю Генадзю Савянкову"**

Яго бралі ў віленскім Мак-Дональдасе. 8 дзюжых гарылаў са спэц-падразьдзяленьня па барацьбе з тэрарыстамі "Бяркутас ір Ястрябас" затаіліся ў кабінках прыбіральні, чакаючы ўмоўнага сыгналу.

Абсалютна не чакаючы падвоху, агент Інтэрполу Генадзь Савянкоў пасьпеў толькі заўважыць, як у чэраве агромнага люстра, што вісела ў холе рэстарану, прамільгнулі восем азьвярэлых рож. У наступную хвіліну 4 спэцназаўскія тушкі павісьлі на ягоных плячах. Як беларусу, яму было ня цяжка раскідаць групу захопу й кінуцца да выхаду. Трэск паламанай мэблі, лямант наведнікаў, сочная лаянка спэцназаўцаў - у адно імгненьне зьліліся ва ўстойлівы шумавы фон і забясьпечылі Савянкову бясьпечныя шляхі адыходу. Аднак выкарыстаць спрыяльны момант Савянкову не ўдалося. Каля дзьвераў рэстарану ён сутыкнуўся зь невядома адкуль паўсталай літоўскай мамашай зь дзіцём на руках, якая рвалася вонкі з гэтай мясарубкі. Савянкоў мэханічна прапусьціў матрону ўперад, інтуітыўна адчуваючы, што губляе каштоўныя хвіліны. Ён быў прадстаўніком старога шляхецкага роду й ня мог паступіцца прыроджанымі высакароднымі прынцыпамі. Страчаныя хвіліны каштавалі яму свабоды...

Размазаны Савянковым па мармуровай падлозе рэстарану спэцназавец намацаў пад сабою кольт і імгненна засадзіў у сьпіну беларуса ўсю абойму. Савянкоў пачаў павольна спаўзаць долу. Апошняе, што бачылі яго памутнелыя вочы, была зграя ворагаў, якая кульгаючы й плюючыся выбітымі зубамі, набліжалася ў ягоны бок.

*1*

"Мы перапыняем нашыя перадачы для надзвычайнага паведамленьня". Такімі словамі за тры месяцы да вышэй апісаных падзеяў вясной 1997 былі перарваныя ўсе трансьляцыі літоўскіх ТБ і радыё. Са студзеня 1991, калі савецкае войска штурмавала мясцовую тэлевежу, вядучыя навінаў не выглядалі такімі занепакоенымі. У перадчуваньні нечага жудаснага ўсе літоўскія пэнсіянэры, вэтэраны SS і хатнія гаспадыні ўтаропіліся ў тэлеэкраны. Навіны сапраўды былі брутальнымі. "Некалькі гадзінаў таму быў учынены дзёрзкі напад на вежу Гедыміна. Невядомы злачынец з аўтамата паклаў ахову, пранік у сутарэньні вежы й скраў сьвятыню нашага народу - муніцыпальны сьцяг. Праз паўгадзіны пасьля здарэньня невядомы патэлефанаваў у дэпартамэнт МУС і запатрабаваў за вяртаньне сьцягу 11.734 даляры 14 цэнтаў у дробных купюрах". Літоўская нацыя літаральна здрыганулася ад такіх навінаў. У наступныя дні ўся паліцыя была паднятая па трывозе, адмененая прэзумпцыя невінаватасьці, уведзены візавы рэжым з Эстоніяй. Пошук злачынца стаў справай гонару нацыі.

*2*

"Безумоўна, злачынец - беларус", - паліцэйскі інспэктар Адамчыкас, якому Прэзыдэнт асабіста даручыў расьсьледаваньне справы, уважліва паглядзеў у вочы журналістам, якія дамагаліся ад яго новых падрабязнасьцяў вышуку. Інспэктар працягваў:



прасачыліся праз празрыстую беларуска-літоўскую мяжу, маючы за мэту дабрацца да Менску й дабыць інфармацыю пра I зьезд беларусак свету. Магчыма, гэта быў ключ да раскрыцьця справы. Апэрацыя атрымала назву "Бура ў балоце".

***3***

Кірыл I. не любіў прэзыдэнта. БПСМ ён таксама не паважаў. Затое з павагай ставіўся да алькаголю, халяўных банкетаў і пашырэньня NATO на ўсход. Невыпадкова, што адным леташнім ранкам ён без належнага падазрэньня прыняў прапанову нейкага мужчыны з замежным акцэнтам "хлябнуть піўка". Калі праз пару гадзінаў знаёмства, спонсар спытаў тынэйджэра, што ён ведае пра зьезд беларусак сьвету, апошні зразумеў, што перад ім звычайны шпіён і вельмі ўзрадаваўся: "Слава Богу, а то я ўжо пачаў сумнявацца ў правільнасьці ягонай сэксуальнай арыентацыі!". Ад шпіёнаў у Кірыла не было ніякіх сакрэтаў. Яны ўзялі яшчэ піўка й Кірыл пачаў распавядаць усё, што ён ведаў на гэты конт (потым, калі яго будуць судзіць за здраду радзіме, ён будзе ўпарта казаць, што яго катавалі).

***4***

Калі б Янка Маўр заглянуў неяк цудоўным чэрвеньскім вечарам 1995 у Дом паэтаў, ён бы абавязкова пачаў пісаць працяг сваёй аповесьці пра краіну райскай птушкі, бо матэрыялу аб жыцьці дзікуноў, у яго было б больш, чым трэба (прынамсі, пра оргіі людаедаў). Справа ў тым, што ў гэтысамы дзень Дом паэтаў прыймаў дэлегатаў Першага зьезду маладых беларусак сьвету. Напрыканцы мерапрыемства арганізатары прапанавалі ўдзельнікам агромны банкент, на які зьбеглася ўся менская тусоўка. Дарэмна студэнты беластоцкага коледжу фізычнай культуры спрабавалі прыпыніць хвалю аматараў халявы. Апошніх станавілася ўсё больш і больш, і нарэшце мяжа паміж дэлегатамі й няпрошанымі гасьцямі сьцёрлася. Маса моладзі зьлілася ў экстазе спажываньня дармовага піва, гарэлкі й бутэрбродаў.

Спансаравалі банкет і зьезд нейкія цёмныя амэрыканскія беларусы, якія ведалі па-беларуску толькі адно слова: "бакс". Развадзіць такіх лахоў было сапраўдным задавальненьнем. Дастаткова было злавіць такога "земляка" й навешаць яму лапшы наконт таго, што Радзіма даўно ўжо пакутуе ад бальшавікоў і чакае зорна-паласатых вызваліцеляў. Потым суразмоўцу прапаноўвалася роля ратаўніка нацыі. А далей можна было сьмела прасіць у яго грошы на арганізацыю вызвольнага параду, інаўгурацыі і г.д. Відавочна, што жадаючых прафінансаваць такое мерапрыемства як зьезд беларусак было на першым этапе зашмат, і арганізатары яшчэ доўга каталіся нібы сыр у масьле, правакуючы страшэнную зайздрасьць у мясцовым палітычным бомондзе. Ня дзіва, што праз год у Беларусі існавала ўжо 5 аргкамітэтаў наступнага Другога зьезду, якія зьвярталіся адзін да аднога ня йнакш як "самазванцы". Закладнікамі гэтых прахадзімцаў сталі замежныя беларусы, ад якіх увесь час патрабавалі рабіць унёскі ў фонд будучага зьезду. Так напрыклад, аргкамітэт на чале зь нейкім ці-то графам, ці-то маркізам Кузьнечуком -Сьветлагорскім патрабаваў ад віленскіх беларусаў 11.734 даляры й 14 цэнтаў, чым паставіў іх у двухсэнсоўнае становішча, а асабліва іхнага лідэра Генадзя Савянкова...

"На месцы злачынства знойдзеная ўліка, якая гаворыць сама за сябе". Адамчыкас раскрыў далонь левай рукі. Сьвятло пражэктароў, аб'ектывы відэа- і фотакамэраў сканцэнтраваліся на маленькім прадмеце, які трымаў паліцэйскі. Гэта быў звычайны значак, на якім можна было бязь цяжкасьцяў разгледзець бляклыя, сьцёртыя кірылічныя літары, што складаліся ў фразу: "Першы зьезд беларусак сьвету".

"Спадар інспэктар, пракамэнтуйце Вашую знаходку" - рэпарцёры запхнулі свае мікрафоны амаль у самую глотку інспэктару. Адамчыкас прыўзьняўся з крэсла. Яму, старому паліцэйскаму служаку, які пачынаў яшчэ ў Гестапа, было нязвыкла й брыдка ад усёй гэтай журналісцкай мітусьні. "Ніякіх камэнтароў! Прэс-канфэрэнцыя закончаная". Ад гэтых словаў заінтрыгаваная аўдыторыя яшчэ больш падалася наперад, але памочнікі інспэктара нагамі й дубінкамі ўжо пракла̀лі патрону калідор у масе прадстаўнікоў мэдыя. Апошнія засталіся сам-насам са сьвежымі крывападцёкамі й фантастычнымі інтэрпрэтацыямі наконт заявы інспэктара паліцыі.

Зранку прэса стракацела аршыннымі загалоўкамі кшталту "Сьляды гангстэра вядуць у Менск", "Нашто Лукашэнку сьцяг Гедыміна"... Ведаючы круты нораў беларускай мафіі, прадстаўнікі грамадзкасьці ўжо пачалі было зьбіраць грошы на выкуп, але сілы бясьпекі прапанавалі свой плян.

Гэтым жа ранкам некалькі шпіёнскіх групаў

*5*

Раптам суразмоўца Кірыла І. папярхнуўся чарговым глыткам піва. "Што сталася, дзядзечка!" - спужаўся было Кірыл, паслужліва пляскаючы незнаёмца па сьпіне. Але невядомы, спаслаўшыся на дрэнную якасьць мясцовага піваварства, язву страўніка, пляскастоп'е 3-яй ступені й нейкія неадкладныя справы, стаў некуды сьпяшацца.

Агент літоўскай разьведкі Ёнас Караўскас(а гэта быў менавіта ён) высьветліў усё, што яму было патрэбна. Сьпяшаючыся на бліжэйшы дызэль Менск-Вільня, Ёнас мысьленна ўжо пераносіўся на сонечныя пляжы Канарскіх астравоў, дзе даўна ўжо марыў правесьці свой заслужаны 6-дзённы водпуск, які яму абавязкова прадставіць начальства за бліскуча выкананае заданьне.

*6*

Бэльгійскія пэдафілы даўно ўжо палажылі вока на новыя ўсходнеэўрапейскія рынкі. Новым Бангкокам павінна была стаць Вільня, дзе плянавалася зрабіць падпольны рэгіянальны цэнтар па продажы скрадзеных дзетак. Тут жывы тавар хавалі у кантэйнэрах з-пад Сьнікерсаў, сюды прыязджалі аптавікі з захаду, адсюль эшалёны з жудасным грузам пачыналі свой шлях у Эўропу, пунктам прызначэньня якіх былі заходнеэўрапейскія прытоны, кінастудыі парнаграфічных фільмаў і штаб-кватэра NATO. Яшчэ ў 1995 годзе ў Інтэрпол трапілі першыя зьвесткі пра пэдафільскую "павуціну". Паступова ніткі камунікацыяў і інфраструктура вычварэнцаў сталі вядомыя ахоўнікам парадку. Заставалася нанесьці вырашальны ўдар у самае сэрца злачынцаў. Літоўскаму аддзяленьню Інтэрпола адводзілася галоўнае месца ў будучай апэрацыі. Яго супрацоўнікі павінны былі арыштаваць галоўнага пэдафіла-вычварэнца Эўропы Француа Підро, які мусіў завітаць у Літву, каб заключыць кантракт стагодзьдзя - купіць для амэрыканскіх ваякаў у пэрсідзкай затоцы партыю жывога тавару. Каля 500 дзетак 5-7 гадовага ўзросту павінны былі дапамагаць амэрыканскім салдафонам здымаць сэксуальнае напружаньне ў перапынках паміж налётамі на Багдад. Было вырашана браць Ф.Підро з палічным у час заключэньня кантракту. З кандыдатурай опэра пытаньняў не было. Вырашылі пасылаць лепшага паліцэйскага агента Літвы - Г.Савянковаса.



Досыць сіратлівае відовішча уяўляла сабой Вежа Гедыміна бяз звыклага для былых сябраў "Саюдзіса" дзяржаўнага трыкалёру.

*7*

"А вось гэты хлопчык нічога"— Француа тыкнуў тоўстым мясістым пальцам на фотакартку белакурага славянскага хлопчыка — "за гэткі тавар не дарма выкласьці 500 зялёных". "У мяне ўся партыя вартая ўвагі" — смакуючы дарагую сыгару, упэўнена адзначыў вядомы літоўскі суценёр Бібікас і пасунуў да Підро стос фотаздымкаў дзяцей. Працэдура заключэньня кантракту была ў самым разгары. Нарэшце бэльгіец пацягнуўся па кейс з грашыма. Пачкі са сьвежааддрукаванымі купюрамі высыпаліся на стол. У сваю чаргу Бібікас працягнуў Підро паперы аб тым, што апошні становіцца ўладальнікам 36 вагонаў зь сялёдкай. Зразумела, што ніякай сялёдкі там не было: у гэтых вагонах у жахлівых умовах дзеткі, выкрадзеныя ў сваіх бацькоў, чакалі свайго незайздроснага лёсу.

Аднак не пасьпеў Підро паставіць свой вычварэнскі подпіс пад дакумэнтам, як у пакой гатэлю Хілтанас, дзе адбывалася зьдзелка, уварваўся ўзброены чалавек у масцы. "Ляжать, мразь! Паліцыя!"

Підро кінуўся на падлогу, на ляту выхопліваючы кішенны аўтамат "Бэрэта". Бібікас, які спадзяваўся на тое, што прадажная фэміда ў які ўжо раз закрые вочы на ягоныя злачынствы, з гатоўнасьцю ўскінуў рукі ў гару. У наступнае імгненьне мозгі Бібікаса запэцкалі крывавымі студзяністымі разводамі сьцены й столь нумару-люкс. Савянкоў не любіў рэзкіх рухаў. Підро адчайна палівау сьвінцовымі пырскамі дзьвярны праём і камод, за якім укрыўся Савянкоў. Улучыўшы момант, калі Підро завазіўся з устаўленьнем новага ражка з патронамі, Савянкоў прафэсійным ударам выбіў зь ягоных рук зброю. "Зьлітуйся! Я ніколі болей ня буду гандляваць дзеткамі!" - заскуголіў стары злачынца й распутнік з 30-гадовым стажам. "Жуй фоткі, сука!" - пашкадаваў яго Савянкоў і прымусіў есьці ўсе фотаздымкі Fuji, якія былі веерам раскіданыя па стале. На 56-м фотаздымку бэльгіец пачаў задыхацца. Прывучаны зь дзяцінства да міласэрнасьці, Савянкоў ня мог абыякава глядзець на мучэньні гэтага беднага чалавека, які волею цяжкіх жыцьцёвых абставінаў вымушаны быў стаць на нячэсны шлях. Савянкоў стрэліў Підро ў патыліцу. Той завыў ад страшнага болю й забіўся ў гістэрыцы. Гуманны паліцэйскі, каб аблегчыць боль бэльгійца стрэліў яшчэ раз, потым яшчэ: Недзе з паўгадзіны Француа Підро біўся ў перадсьмяротных канвульсіях і сутаргах, пакуль не заціх назаўсёды. "Шкада чалавека, — падумаў Савянкоў. - Зь яго можа атрымаўся б добры выхавацель дзіцячага садку."

*8*

Пракурор працягнуў прэзыдэнту Бразаўскасу тоўсты том з гучнай назвай на тытуле "Справа аб сьцягу зь вежы Гедыміна". Бразаўскас, які асабіста кантраляваў ход расьсьледаваньня, даўно чакаў гэтай хвіліны. "Такім чынам, я маю надзею, што злачынец вядомы?" - прэзыдэнту горача хацелася адрапартаваць перад грамадзкасьцю аб тым, што злачынства стагодзьдзя раскрытае й заадно ўцерці нос гэтаму амбіцыёзнаму янкі-Адамкусу, які яўна меціць у прэзыдэнцкае крэсла. Калі ён дабраўся да апошняй старонкі справы, ад першапачатковай грымасы трыюмфу не засталося й сьледу. Прэзыдэнту нават стала худа. "Вы ў сваім розуму, Тышкявічус, каб сьцьвярджаць, што сьцяг выкраў Савянковас - герой Інтэрполу, кумір літоўскай моладзі, лепшы паліцэйскі краіны:?!" Пракурор чакаў гэтага пытаньня й пасьпяшаўся аргумэнтаваць сваю

пазыцыю: "Усе ўлікі супраць яго. Відавочна, што ў яго не заставалася іншага выйсьця, каб правесьці Другі зьезд маладых беларусак сьвету. Але, якімі б высакароднымі не былі матывы ўчынку Савянковаса - ён злачынец, і я патрабую яго арышту". Бразаўскас ціха падняўся з фатэлі й зьняў са сьцяны партрэт Савянкова з подпісам "Любімаму Прэзыдэнту Літвы ад лепшага паліцэйскага Літвы на доўгую памяць". Шкло ў акулярах прэзыдэнта зьлёгку запацела. Яшчэ некалькі хвілінаў ён думаў пра велічэзную постаць гэтага чалавека. Потым скупа выціснуў зь сабе словы, якія вырашылі лёс Савянкова: "Я згодзен. Вы можаце яго арыштаваць. Я мяркую, Вы ведаеце, дзе яго можна знайсьці?" "Так," - з гатоўнасьцю пацьвердзіў пракурор. - "Сёньня 25 сакавіка - Дзень незалежнасьці БНР. Звычайна гэты дзень ён праводзіць у рэстаране МакДональдас і страшна абпіваецца Кока-Колай".

*9*

Судзьдзя паправіў на носе свае акуляры і як мага больш урачыста пачаў зачытваць прысуд. Савянкоў ня слухаў прамовы судзьдзі. Ён ведаў, што чакаць міласьці няма сэнсу. З таго самага часу, як яго павінцілі ў МакДональдасе яго справа была відавочная. Ён не сумняваўся, што яго чакае некалькі гадоў у лягерах, адкуль ён можа нават не вярнуцца жывым. Галоўнае, што яго турбавала ў гэтую хвіліну - гэта лёс шматпакутнай Бацькаўшчыны і пэрспэктыва Другога зьезду маладых беларусак сьвету. Ад такіх мысьляў наварочваліся сьлёзы. Савянкоў знайшоў вачыма галёрку, дзе прысутныя на працэсе беларусы горача перажывалі за лёс свайго земляка. Ён кінуў у іхны бок знак падзякі за падтрымку й яшчэ мацней сьціснуў у руках паперку, якую яму тайна перадалі ўчора ў камэру. Гэта быў ліст з далёкай Амэрыкі, дзе мясцовыя беларусы, уражаныя подзьвігам земляка, вылучылі яго кандыдатуру на пост прэзыдэнта БНР. Гэта прыдавала Савянкову моцы й надзеі. Значыць, барацьба працягваецца! "Прынамсі на 5-ы зьезд маладых беларусак я патраплю" -незаўважна ўсьміхнуўся ён пра сябе. - "У скрайнім выпадку з турмы можна зьбегчы , альбо ўзяць закладнікаў:" Савянкоў ужо зноў звыкла пагружаўся ў свае геніяльныя пляны, якія ня раз забясьпечвалі яму перамогу над абставінамі... ●



# МІНІ-НАВІНКІ

## Янкі ў горадзе

Не пасьпела наша беларуская зборная па хакею ўступіць у пятніцу 13 лютага хакеістам ЗША, як ужо ў суботу на вуліцах Менску амэрыканскія хакейныя фанаты ладзілі сьвяткаваньне перамогі. Некалькі соцень чалавек прайшліся ад плошчы Якуба Коласа да Опэрнага тэатру, скандуючы "I love USA", размахваючы зорна-паласатым сьцягамі й малюючы спрэямі на сьценах надпісы правакацыйнага зьместу, кшталту "Сьвяты Валянцін - мнагажэнец". Большую частку дэманстрантаў складалі нэгры, якіх амэрыканская амбасада спэцыяльна вывезла ў Беларусь на спэц-самалётах, паабяцаўшы кожнаму пазачарговы прагул і пару бутэлек Брэндзі. Адразу па прылёце ў Аэрапорт Менск-2 небаракаў пастроілі ў калёны, пафарбавалі крэйдай, уручылі сьцягі, партрэты прэзыдэнта Клінтана, і пагналі як баранаў у горад на дэманстрацыю. Супрацоўнікі амбасады, апранутыя ў цывільнае і зь бізунамі, уважліва сачылі, каб нікто з удзельнікаў сьвяточнага маршу не сачкаваў. Пад час маршу не абышлося без інцыдэнтаў. Шмат інтурыстаў адстала ад калёны й згубілася ў цэнтры гораду. Каб знайсьці сваю групу ім прыйшлося прыбегчы да дапамогі міліцыі.




## У Багдадзе неспакойна

Група дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13,5-га скліканьня, аб'яднаных у фракцыю "Рукі прэч ад амэрыканскіх інтарэсаў у Пэрсідзкай затоцы!" вярнулася з зоны канфлікту. Са словаў лідэра фракцыі А. Вутачкіна, візыт меў практычныя мэты. Дэпутаты перадалі прадстаўнікам амэрыканскага экспэдыцыйнага корпусу 150 кг фальгі ад цукерак "Мишка на Севере" і "Красная шапочка" (фальгу ад "Раковых шеек" затрымалі на прахадной фабрыкі "Камунарка"). Вядома, што фальга мае стратэгічнае значэньне: пры трапляньні на лякатары супраціўніка яна нэйтралізуе ягонае дзеяньне. Такім чынам, наша фальга акажа значную дапамогу амэрыканскім міратворцам. Гэта быў свайго кшталту адказ дэпутатаў на ініцыятыву менскіх панкаў зьбіраць пустыя бутэлькі, каб на выручаныя грошы купіць для ірацкіх дзяцей пару-тройку ўстановак "Гром и Молния".

# Школа баявых

Вёска Бруславічы, што на Мядзельшчыне, на першы зрок нічым не прыкметна, можа акрамя таго што ўжо другі год займае прызавыя месцы ў раённым спаборніцтве па зборы азімых "Градзінкі". Тыя ж беларускія краявіды: лес, балота, рэчка, яры й нарэшцезакінутыя руіны нейкага сярэднявечнага манастыру. Сёньня гэтыя рэшткі мураў і вежы служаць надзейным сховішчам мясцовым алкашам, аднак перамясьціся мы на 300-400 гадоў таму, мы б пабачылі зусім іншыя тыпажы: манахаў у доўгіх чырвоных расах, якія пад парафіяльныя званы сьпяшаюцца на ранішнюю малітву; купцоў-чалнакоў, што вязуць з Польшчы валюту; сялянаў, якія пільнуюць у засадзе з дубінкай панакрывасмока...



Бруславіцкія манахі трэніруюць прэс жывата й трыцэпсы. (3 гравюры 15 ст.)

Гэтак, у сярэднявеччы тут быў сапраўдны эпіцэнтар жыцьця, прычым у Бруславічах быў ня проста манастыр, а адзіны ў Вялікім Княстве цэнтар манахаў, дзе акрамя духоўных навук выкладалі спартовыя дыс-цыпліны. Звычайны дзень складаўся для мясцовых манахаў з малітвы, дзесяцікілямэтровай прабежкай і заняткаў па вывучэньні прыёмаў г.зв. "Школы баявых лемпардаў".

Вытокі школы сыходзяць у 14 стагодзьдзе, калі ў Бруславічах зьявіліся татары, хаўрусьнікі Вітаўта па няўдалым паходзе на Тамэрлана. Акрамя ятаганаў і свэтраў вузкавокія хлопцы прывезьлі прыёмы ўсходніх адзінаборстваў, якіх яны набраліся ад палонных кітайцаў і карэйцаў. Гэтыя прыёмы нейкі час былі тайнай зброяй татарскай моладзі, але хутка тутэйшыя навучыліся махацца й крычаць "КІЯ!" ня горш за суседзкіх Ахмэдаў, Махмудаў ды Ібрагімаў. З таго часу ўчастковыя ваяводы больш у вёску не заходзілі, а ўсіх сялянаў запісалі ў шляхту. У 15 стагодзьдзі, калі пачаўся ўздым рэфармацыі ў Бруславічы пранікаюць эмісары антытрынітарыяў — прыхільнікаў радыкальнага рэфармацыйнага напрамку. Яны заснавалі камуну, якая аб'яднала найбольш пасьлядоўных вернікаў навакольля. Сыльвэстар з-пад Століна — лідэр рэфармістаў, склаў для камуны статут, у які паміж іншым унес абавязковыя спартовыя заняткі. Паралельна ен зрабіў кадыфікацыю мясцовых прыёмаў самаабароны і распрацаваў нешта падобнае на сучасны кікбоксінг. У хуткім часе камуна распалася, а на яе базе быў створаны бруславіцкі каталіцкі (потым уніяцкі) манастыр , які стаў нашчадкам Сыльвэстравай навукі, якую дарэчы зь цягам часу сталі называць "Школай баявых лемпардаў". Калі сучаснаму падлетку, каб лічыць сябе аматарам мастацтва самаабароны дастаткова ведаць прозьвішча Брюса Лі ці Джэкі Чана, то для тагачасных маладых беларускіх манахаў усё было нашмат цяжэй. Перш за ўсё трэба было прайсьці пяцігадовы курс навучаньня з абавязковай летняй практыкай дзе-небудзь у чарговым паходзе на Маскву, або на мяжы з татарамі на поўдні. Тыя, хто выжываў былі павінны здаць галоўны іспыт: знайсьці балотную рысь — лемпарда й забіць яе голымі рукамі. Трэба адзначыць, што сярэднявечныя лемпарды маюць вельмі мала агульнага з сучаснымі рысямі. Жывёла лемпард — прамы нашчадак шаблязубых тыграў, была амаль паўтары мэтры вышынёй у холцы й запраста перагрызала рыцара ў дасьпехах разам з канём. Прыручаныя лемпарды стваралі самую грозную зброю войска ВКЛ, напрыклад пад час грюнвальдзкай бітвы лемпард па мянушцы "Барсік", будучы галодным, зьеў віцэ-магістра тэўтонскага ордэна Рудольфа фон Ляндсбэрга разам з двума целаахоўнікамі. Такім чынам, гэта была сапраўды небясьпечная істота, перамагчы якую было вельмі няпроста. Але для выпускнікоў бруславіцкага манастыру не існавала катэгорыі непераможных ворагаў: ужо на сярэдзіну 17 стагодзьдзя ў імпэце выпускных іспытаў яны перабілі амаль усіх лемпардаў у Беларусі. На гэты час у бруславіцкіх манахаў зьявіўся куды страшнейшы вораг, чым прадстаўнікі пароды кашачых. Справа ў тым, што якраз тады кульмінацыя супрацьстаяньня ВКЛ і Маскоўшчыны дасягае сваёй кульмінацыі, пачынаецца г.зв. Вялікая вайна, арэнай баявых дзеяньняў якой стала Беларусь. У хуткім часе першыя авангардныя часткі расейскіх войскаў зьявіліся пад Бруславічамі й паспрабавалі з ходу захапіць манастыр. Манахі, шчыра кажучы, не чакалі такога нахабства й былі, што называецца застігнуты ў расплох. Але потым служкі культу хутка ўзялі сытуацыю пад кантроль і паказалі захопнікам тое-сёе са свайго спартыўнага досьведу. Нажаль, гісторыя не захавала для нас шмат дакумэнтаў, якія б дапамаглі нам уявіць канкрэтныя абставіны гэтай бойкі, аднак нешта ўсё ж зьберагглося. Гэта перш за ўсё ліст ваяводы Сімяона, які ўзначальваў атрад расейцаў, да цара Аляксея Міхайлавіча: "Зело паки монахи Бруславичыския бьюцца, царь государь, аки псы, особенно если ногой в рыло, а те холопы твое, хто жывой спасся, самодержецъ инвалиды какъ одинъ есть". Хутчэй за ўсё, ліст ваяводы зрабіў пэўнае узьдзеянне на цара, бо наступным разам, ён асабіста павёў сваіх стральцоў на штурм Бруславічаў. Амаль 2 тысячы салдатаў пачалі аблогу манастыра. Нягледзячы на відавочную людзкую перавагу й артылерыйскую падтрымку, прымусіць манахаў здацца аказалася ня так проста. Яны ўпарта адбівалі спробы штурму й пэрыядычна праводзілі вылазкі. Гэтыя вылазкі былі вельмі небясьпечныя для стральцоў, бо як правіла яны праходзілі уначы, калі пераважна адзіным сродкам барацьбы быў рукапашны бой, у якім, як вядома, манахам не было

# *лем*пардаў

роўных. Аднога разу, манах Юрась з Пузікавічаў нават прабраўся ў апачывальню самаго государя. Нажаль, Аляксея Міхайлавіча ў пакоі не было, таму наш герой проста абмежаваўся тым, што напісаў на сьцяне "Наш дом - Вялікае княства Літоўскае, Рускае й Жмудзкае!". Разьюшаны цар паабяцаў сьцерці манастыр з твару зямлі. Аднак, як гэта не гучыць празаічна, у які раз усё вырашыла здрада. Толмач манастыру, нехта Сёмка з Шарыкаў, купіўся на абяцанкі цара й уначы адчыніў дзьверы манастыра. Стральцы ўвайшлі ў сутарэньні й напалі на сонных манахаў. Зразумела, што шанцы ў апошніх былі амаль нулёвыя. Падчас пагрому ўсе яны былі забітыя, а зь імі сышла ў нябыт і школа баявых лемпардаў. Праўда, сярод тутэйшых хадзілі чуткі, што маладому манашку Янку такі ўдалося ўцякчы кудысь на ўсход, у горад Ганконг, дзе быццам ён прыняў прозьвішча Янь Вань Дань. Кажуць, што ён унес з сабою й сакрэты "лемпардаў". Але гэта ўжо больш нагадвае прыгожую казку. ●

**Панцеляймон Веласіпедаў**

# У ПРАЦЯГ ТЭМЫ...

## Прыжкін: першая кроў

Як можна меркаваць па апошніх здарэньнях у стане "Перараpараджэньня", традыцыі рукапашнага бою сярод нацыянальна сьведамай моладзі не памерлі. На днях група хуліганаў (як мяркуецца, сябры спартовай камісіі "Маладога тылу") пабіла старшыню Кастрычніцкай рады імя Леніна "Беларускага Народнага Тылу". Як мяркуе карэспандэнт газэты *Имя* Сева Шнідкельсон, сутычка адбылася паводле празаічных прычынаў: не падзялілі дзяўчыну. Рэзультаты журналісцкага расьсьледаваньня паказваюць, што камандзір спартоўцаў нейкі Прыжкін паклаў вока на новую знаёмку старшыні названай рады. "Ён жа імпатэнт!" — шчыра абурыўся маладафронтавец, хаваючы зайздрасьць да старэйшага таварыша па партыі. Прыжкін вырашыў не адкладаць вырашэньне праблемы ў даўгую скрыню. Клікнуўшы сваіх верных хлапцоў, Прыжкін выправіўся на кватэру да "крыўдзіцеля". Дома яго не аказалася. "Відаць, забаўляецца зь беднай дзяўчынкай" — пранеслася ў мозгу беларускага Атэлы. — Напэўна яны ў памяшканьні рады катаюцца!" Уварваўшыся ў памяшканьне рады, па словах Шнідкельсона, Прыжкінавы хлапцы накінуліся на старшыню раённай рады й сталі зьбіваць яго рукамі, нагамі й хакейнымі клюшкамі. Афіцыйна ўсё гэта матывавалася тым, што нібыта бедны старшыня Кастрычніцкай рады імя Леніна горада Менску прадаў сакрэты беларускай алімпійскай зборнай па хакею расейцам. У якасьці галоўнай улікі прад'яўлялася знойдзеная ў кішэнях старшыні газэта *Гэта мы!*. "Ну што, сука, кажы праўду. Ты ў мяне білет на стол пакладзеш!" — злобна сказаў Прыжкін. І той прызнаўся, што працаваў на ЦРУ, ФСБ й японскую разьведку адначасова, абы перасталі круціць рукі. "Дзе дзяўчынка!" — злобна спытаўся Прыжка. Высьветлілася, што старшыня быў родным бацькам маладой асобы, што прыглянулася лідэру спартовай камісіі "Маладога Тылу". На думку сп. Шнідкельсона, зараз няшчаснаму бацьку траіх дзяцей пагражае пазбаўленьне бацькоўскіх правоў і выключэньне з БНТ. ●

**Паводле матэрыялаў газэты *Имя* падрыхтаваў А.Южынец**

# МІНІ-НАВІНКІ

## Заклінальнікі халявы

Нявінная студэнцкая традыцыя выклікаць "халяўку" — істоту, якая прыносіць удачу на іспытах, павярнулася для трох студэнтаў БПІ трагічнымі наступствамі. 21 сьнежня напярэдадні заліку па "сапрамату" жыхары аднаго з інтэрнатаў вырашылі перастрахавацца ад правалу на заліку і выклікаць халяву. Пунктуальна выконваючы рытуал заклінаньня, якраз апоўначы яны адкрылі свае заліковыя кніжкі і ўрачыста вымавілі заклінаньне: "Халява, прыходзь!". Што адбывалася далей, сказаць цяжка. Суседзі па блёку прыгадваюць, што пачулі страшэнны немы лямант. Яны тут жа пакідалі падручнікі й стаканы і кінуліся на дапамогу. Дзьверы пакою, які насялялі заклінальнікі халявы, былі зачыненыя з нутры, што, між іншым, ніколі не практыкавалася. Зрэшты, суседзяў гэта не спыніла. На шчасьце, сярод іх быў адзін опэратрадавец, якому "высаджваць" дзьверы было болей чым звычна, і ў хуткім часе замок паддаўся. Калі вушак дзьвераў адляцеў прэч, суседзям паўстала сцэна, якая літаральна сышла са старонак гатычных жахлівікаў. У кут пакою забіліся тры студэнты. Іхнія вочы выяўлялі бязьмежны жах. Пашыраныя зрэнкі былі прыкаваныя да стала.
На стале, побач з кіпяцільнікам і газэтаю "Студэнцкая думка", ляжалі тры разгорнутыя залікоўкі. На адной са старонак пунсовым, крывавым атрамантам было па д'ябальску акуратна напісана: "Сапрамат — залік". І подпіс: "Халява". Надпіс вылучаў блакітнае атрутлівае сьвятло. Студэнты ў жудасьці кінуліся бегчы, прыхапіўшы з сабою няўдачлівых заклінальнікаў. Калі зранку яны наважыліся вярнуцца ў пакой, моцна накачаўшыся півам і ўзброіўшыся бэйсбольнымі бітамі, заліковак ужо не было. Што да нешчасьлівых студэнтаў, то іх так і не ўдалося вярнуць да розуму. Зранку санітары зьвезьлі дваіх у "Навінкі". Трэці небарака ўпаў у страшэнную дэпрэсію і праз два дні дабраахвотна пайшоў у войска.
На думку А.Гамэрлана — спэцыяліста па чорнай магіі, студэнтам удалося выклікаць прадстаўніка іншасьвету. Гэта унікальны выпадак, таму што транспартацыя антыаб'ектаў патрабуе калясальнай мабілізацыі псыхічнай энэргіі. Верагодна, студэнтам так карцела атрымаць халяўны залік, што яны мімаволі зрабілі цуд.

## Зоркі на балоце

Хітом вясновага кінапракату ў Эўропе па ацэнках спэцыялістаў стане француская кінастужка "Шанец для дваіх", што выходзіць на экраны ў лютым, зьнятая на матывы аповесьці І.Мележа "Людзі на балоце". У фільме задзейнічанае сапраўднае сузор'е актораў — В.Парадыз у ролі Ганны, А.Дэлён (Васіль Зяблік) і нарэшце непараўнальны Ж.-П.Бэльмандо (Яўхім Корч). Фільм, на пастаноўку якога выдаткавана 100000 мільёнаў даляраў, багаты на спэцэфэкты, маштабныя масоўкі і шакіруючыя эратычныя сцэны. Апошняе й вызначыла лёс кінастужкі ў Амэрыцы, дзе грамадзкасьць дамаглася вынятку зь фільму адной занадта шчырай сцэны, у якой Ганна... Зрэшты, нашто мы вам пра ўсё распавядаем? Глядзіце на экранах.



# Шаноўны зямляк!

**Мы, беларуская дыяспара ў Амэрыцы, горача вітаем цябе й віншуем з надыходзячым сьвятам -- 80-ай гадавіны абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Ня гледзячы на тыя выпрабаваньні, што зваліліся на нашую Бацькаўшчыну, мы ўпэўненыя ў нашую канчатковую перамогу.**
**Жыве Беларусь!**

## Беларуская дыяспара ў Амэрыцы думае пра твой заўтрашні дзень!

Абсалютна незалежная газэта “НАВІНКІ” Заснавальнік Павал Каларадзкі; галоўны рэдактар гер Нямчук; пры творчай падтрымцы менскага контар-культурнага бомонду. За недакладнасьць пададзеных матэрыялаў рэдакцыя адказнасьці не нясе. Тыраж 299 экз. На правах рукапісу.